## РАДЗІМЕ

Хлеб дала, каб узрос я,
Серп і молат — каб дужым стаў,
Дала неба,
　　　　каб марыў узнёсла,
Дала крылы,
　　　　каб смела ўзлятаў.

Ты дала мне, Радзіма,
　　　　　　　　абавязак і права —
Не прыслужвацца —
　　　　　　　　праўдзе высокай служыць,
Прычасціла мяне да нягаснучай славы,
Тваім сцягам агністым навек даражыць.

Я нікому яго не дазволю запляміць,
Будзе трэба — і сэрцам закрыю сваім:
Гэты сцяг палымнеў у свінцовую замець,
Рэвалюцыі водбліск застаўся на ім.

1*

* *

Я родам з тых мясцін лясных,
Дзе і раку завуць Лясною,
Дзе у бярозы і сасны
Аблокаў пух над галавою.

Пад месяцам прыціхне бор,
І лягуць казачныя цені,
І да стажка у светлы двор
Падыдуць лёгкія алені.

Загляне ў вокны цішыня,
Абрусам маці стол засцеле.
Пра князя ратных валынян,
Пра Камянец і Берасцею

Пачне расказваць дзед. І шум
Сівых вякоў дыхне над пушчай...
Май толькі чуйную душу
І сэрцам, сэрцам будзь відушчы.

* *

У небе я, над воблачнай пустыняй —
Палёт не перастане захапляць,—
А недзе за смугою сіняй
Мая высакадбайная зямля.

Мяне ўзняла, жадаючы удачы,
Развеяла сумненні пакрысе.
Чым я вышэй, тым больш удзячны
Зямной узлётнай паласе.

## ВЯТРАК

На ўзгорку голым, за сялом,
Дзе вецер ды палын,
Стаіць з паломаным крылом
Стары, забыты млын.

Нямала ўбачыў і пачуў
Ён на вяку сваім,
Прызнацца,
з ім я не хачу
Расстацца назусім.

...Цякла рачулка галасоў
Тут продкаў дарагіх,
Рыпуча-сумных іх вазоў,
Галодных коней іх.

З вяршыні сонечных гадоў
Ацэніш тут як след
І чорны, горкі хлеб дзядоў,
І сённяшні наш хлеб.

## ШУМЯЦЬ ЯЛІНЫ

*Памяці адважнага партызана, аўтара кнігі «Шумяць яліны» Ул. Стэльмашука*

Я ў лесе, дзе з табой былі мы.
Шумяць яліны.

Цяжкая думка цісне сэрца:
Няўжо нам болей не сустрэцца
Хоць на хвіліну?!
Шумяць яліны...

Пакінуў я лясныя шаты,
Іду ў шырокі свет багаты.
Ды сустракаю твайго сына...
Шумяць яліны...

Цябе прысніў я ранкам сінім,
Прачнуўся — зноў
шумяць яліны...

* *

Сумую: як жа будзе тут
Вам, перасаджаныя дрэўцы?
Цяпер нам доўга не сустрэцца:
Я пакідаю родны кут.

Бывайце! І даруйце мне вы:
Мой новы бераг кліча.
Там,
Напэўна, доўга буду сам,
Як перасаджанае дрэва.

* *

Дарога у жыцe,
У жыцe дарога,
Як у жыцці з табой звязана многа!

Я рос ля тваіх непрыкметных вытокаў.
Як выводзіла ў свет ты мяне шырокі,
Развітацца ішлі каласы твае —промні
І ціха шапталі мне:
«Помні!»
Дарога у жыцe,
У жыцe дарога,
Я сёння іду да другога парога,
А ты ў мяне ёсць,
ты не знікаеш —
У мора жыцця майго упадаеш.
Па ўсіх аўтастрадах, па шумных праспектах
Бяжыш
і завеш,
будзеш зваць мяне век ты,
У жыцe дарога.
Дарога у жыцe...

## ДРЭВЫ

Я ў роздуме ля дрэў высокіх.
Зайздросны лёс вялікіх дрэў:
Адтуль, дзе крот,— туды, дзе сокал,
Туды, дзе жаваранка спеў...
А прыйдзе буралом здалёку,
Да каранёў ускалыхне —
І дрэвам выстаяць нялёгка,
Вялікім — цяжка удвайне.

* *

Хто стрыжаны, а хто — кудлаты,
Хто з сумкай, хто з гітараю ў руках...
Няма пакуль нічога ад салдатаў
У сённяшніх прызыўніках.

Ды вось глядзі — ўжо крок чаканны,
І мужнасць б'е з-пад казыркоў,
Там песня на адным дыханні —
І не пазнаць прызыўнікоў.

* *

Буяюць травы ў буйных росах...
Здаля, з бетонных берагоў,
Вярнуўся я і крочу босы
Зялёнай свежасцю лугоў.

Цяпер вастрэй я адчуваю
І гарачэй жыццё люблю.
І не баюся зваць я раем
Сваю спрадвечную зямлю.

Стаў большы ростам, меншы ўзростам,
Чысцею ў святасці палёў.
Як можна быць шчаслівым проста
Ад гэтай роднасці з зямлёй!

* *

А бор чарнеў пасля пажару,
Увесь, да каранёў, чарнеў —
І горкі боль давіў цяжарам
Асірацелага мяне.

Мой бор,— майго маленства
вёсны,
Мая далёкая вярста,—
Не знаў, што смуткам невыносным
З табой сустрэча
можа стаць.

* *

Месяц у небе які —
                    паглядзі!
З чым яго параўнаць?
Параўнанні ўсе устарэлі.
Быў падковай,
            і лодкай,
                    і коскаю
                            маладзік,
А па-мойму — гэта арэлі.
Узляцелі вышэй
            узвышэнняў усіх,
Ціха свецяцца ў пазалоце.
Закаханыя, пэўна, разгойдалі іх
І спыніліся — у палёце.

* *

Гром скалануў цішыню.
Страсныя промні ліўня
Страсна прымае даліна,
Цалуючы вышыню.

Дружна узняцца ільнам,
Буйна цвісці канюшыне...
Хораша будзе там
Мне і маёй дзяўчыне.

* *

Хвалюйце мяне, хвалюйце —
агню свайго не шкадуйце,
канцэртныя залы,
кнігі,
кіно.
Плачу дарагой цаной —
часам, якога так мала.

Хвалюйце мяне, хвалюйце —
нясціпласць вы мне даруйце,
хвалюйце мяне часцей.
Без хвалявання, паверце,
можна душой ачарсцвець,
можна душой памерці.
Хвалюйце!

* *

На вакзал свае пісьмы нашу...
Іх я летуценна пішу
і хачу, каб у скрынцы яны не валяліся,
а ў шлях хутчэй адпраўляліся,
асабліва — калі ёсць навіна,
асабліва — калі яна
добрая...
Цягнікам даручаю,
а калі ў іх пошты няма,
праваднікам тады ўручаю,
давяраю,
завезці прашу:
— Ці не будзе турботна? —
і прымаюць яны ахвотна,
зразумеўшы мяне.

На вакзал нашу пісьмы.

## ЛІРЫЧНЫ ЖАРТ

Люблю працаваць,
асабліва — у свята.
І вось я падумаў:
«Што было б,
каб у веку былым нарадзіўся?
Як грэшнік вялікі праславіўся б я,
бо ў вялікдзень, напэўна,
араў бы зямлю,
а на сёмуху, мабыць,
касіў бы траву,
на каляды — круціў бы жорны...»

## НА АЎТАСТАНЦЫІ Ў БРЭСЦЕ

Ля кіёскаў,
на асфальце,
вёска —
ў вальсе.

За вальсам —
полька.
З Васем —
Волька.

Ножкі — маланкі,
абцасы — град,
ўрэзаць «Янку»
хто не рад!

Лёгкі тупат,
лоўкі свіст.
Не спыняйся,
гарманіст!

* *

Чаргу, што стаяла калісьці за хлебам,
Я, кветкі купляючы, прыгадаў.
Падумаў: «Што заўтра?..» І адгадаў:
Чарга за пуцёўкамі ў зорнае неба!

* *

Холад слова, холад пагляду,
прэч!
Холад ласкі, холад спагады,
прэч!
Холад пацалунка,
холад падарунка,
прэч!
Хай будзе болей цёплых сустрэч!

* *

П'ю з глыбокае, чыстай крыніцы,
Узлятаю на вышыню,
Апынаюся ў навальніцы
І вяртаюся ў цішыню;
Задуменную скрыпку чую,
Бачу — шчодрае сонца ўстае...
Гэта ўсё за хвіліну тую,
Калі гляну ў вочы твае.

* *

Позіркаў промні
зліваюцца.
Кветкі усмешак
цвітуць.
Людзі насустрач ідуць —
лепшыя мары збываюцца.

## ПАДТРЫМКА

*А. Вярцінскаму*

Падтрымка,
падтрымка людская!
Якой цябе мыслю — такою,
бескарысліваю, прамою,
прыходзіш ты да мяне —
так лютай зімою
загараецца сонца ў акне.
Маленькая,
ды без разлікаў,
была для мяне ты вялікай,
Слабенькая, часта бывала
надзейнаю і трывалай.
Падтрымка,
святая падтрымка,
некалі ў голадзе
чарнюткага хлеба скарынкай
у хату прыходзіла.
А перад нябачнай сцяною
я голад больш ўталіў —
прыйшоў чалавек і са мною
даверу хлеб
падзяліў.
Падтрымка — у час сумненняў,
у час, калі гора прыйшло,

пры абароне сумлення,
пры наступленні на зло...
Падтрымка,
падтрымка людская,
якой цябе мыслю, такая —
як сонца ў маім акне —
прыходзіш і сілы будзіш.
І ўжо адчуваюць людзі
падтрымку
ва мне.

* *

Зямлю ару,
            пішу,
                  будую,
цяжэе ноша — не бядую;
задачы цяжкія рашаю,
парой начэй не дасыпаю,—
сябе я трачу.
А як жа йначай?!

## НАРАКАННЕ З ПРЫЧЫНЫ СТРАЧАНАГА ДНЯ

Дзень прадвесні
быў дадзены мне
для цудоўнай дарогі, а можа, для песні...

— Заўтра зойдзеш,— сказаў дырэктар.
— Я прашу вас...
— Заўтра.

Быў ён жорсткай пароды —
нават позірку не падняў.
Так не стала ў майго маладога года
аднаго залатога дня.

## СПОВЕДЗЬ ПОЗНЯГА ДАЖДЖУ

Даруйце, сейбіт і араты,
Што позна я сабраўся ў шлях.
З маёй падмогаю
багаты
Ўраджай падняўся б на палях.

Даруйце,
хоць у тым спазненні
Маёй, бадай, няма віны:
Увесь, да кроплі, жыў імкненнем —
Служыць на службе ў збажыны.

Ёсць у дажджоў, паверце, шчасце —
Сваю душу зямлі аддаць,
Ў любові да яе прыпасці
І к сонцу парасткі падняць.

* *

Калі я да цябе з дабром,
не думай: чым і як аддзячыць?
Проста —
не пакрыўдзі маіх сяброў.

* *

Здалёк дадому ідучы,
Страчаем мы на родных гонях
Агеньчык ясны уначы,
Як невыказна дарагое...

Гарыце ж, добрыя агні,
Сузор'і новыя, гарыце!
І людзям, што з далечыні
Ідуць да вас,
цяпло дарыце.

# ПЕСНІ КУПАЛЫ

Вязынцы пашанцавала...
З размовы экскурсантаў

Вязынцы пашанцавала.
Тут ведае кожны чаму.
Святыняю вёсачка стала,
вядомаю свету ўсяму:
тут акрыліўся Купала.

І нам, брат, пашанцавала,
пашчасціла мне і табе:
нас папараць-кветка пазвала,
убачылі сонца мы
ў дружнай сяўбе,
паслухаўшы песні Купалы.

* *

Шырока павеяла родным:
Шчыруе трактарны стан,
І ўзносіцца ў неба свабодна
Бярозка — зялёны фантан.

Навокал — палёў прасторы,
На ўзмежку цвіце зверабой,
І аж з-пад сініх бору
Жытнёвы бяжыць прыбой.

Тут шчасце маё
і вытокі
Імкненняў маіх і спраў.
Калісьці тут бор высокі
Мне самавітасць даў.

Багатыя славай і хлебам,
Дужасць далі мне палі.
І нават кропельку неба
Тут вочы мае ўзялі.

* *

У аўтобусе еду,
а побач — дзяўчына адна.
«Прыгажуня! Хаця б не паспела сысці...»
Што таіць — даспадобы яна.
Закрануць — не хапае смеласці.

Ну а тут, як на зло, пазірае народ,
Як на зло, тут — прамая вуліца...
Эй, шафёр, дай круты паварот —
І дзяўчына... сама прытуліцца.

* *

«Скажы мне, кахаеш?
Кахаеш ці не?»

Навошта пытаеш
Пра гэта ў мяне?

Хіба мае вочы табе не сказалі?
Хіба мае рукі табе не сказалі?

Хіба не сказала табе маё сэрца,
Што шчасцем, здавалася, захлынецца?!

## АДНОЙЧЫ ЛЕТАМ НАВАЛЬНІЧНЫМ

(Лірычны жарт)

Я так спяшаўся на цягнік,
Так не хацеў спазніцца
(Спазняцца проста не прывык),
І раптам — навальніца.

І раптам:
— Мілы, пачакай,
Пабудзь са мною дома.
Малю, адну не пакідай —
Я ж так баюся грому!

— Ты што? Ды кінь ты, не жартуй.
Яна ж ка мне з маленнем:
— Не пакідай, ну, пашкадуй,
Ну... стану на калені.

«Мо чуе нейкую бяду
Жыцця майго сяброўка?»
І я на поезд не іду —
Гарыць камандзіроўка...

А потым гладка ўсё пайшло:
Прывык спазняцца гэтак,

Бо навальнічным, як на зло,
Было ўсё тое лета.

Схапіў вымову.
                    Знік настрой,
І не сказаць нікому,
Што больш, чым жонка,
                    я парой
Пачаў баяцца грому.

Каханне гіне, ў сэрцы лёд.
Хачу я стаць свабодным,
І з добрай верай у развод
Іду я ў суд народны.

— Баіцца жонка перуноў.
Не ўжыць з такой жанчынай.
А мне адказваюць адно:
Ну, гэта не прычына...

Дзівак я з дзівакоў глухіх:
Каго бяру, не ведаў.
Ці чуеш, сённяшні жаніх,
Ты пра мае ўсе беды?

Ты вось што, браце,— не марудзь
І перш, чым ажаніцца,
Спытацца ў мілай не забудзь,
Ці грому не баіцца.

* *

А вецер-свавольнік вее...
Ах, вецер, прашу, замры!
Ты ж бачыш: бы тры надзеі,
Нясу адуванчыкі тры.

Скарыся мне, вецер нядбайны,
Мяне дзіваком не лічы.
Я гэты букет незвычайны
Каханай паднесці рашыў.

Хачу, каб усмешкай сустрэла
На захадзе тлумнага дня.
Няхай адуванчыкам белым
Узыдзе ў вачах цішыня.

## УСПАМІН

Не забыць мне ніколі,
прасветлая Свіцязь,
тваіх хваляў срабрыстую песню
і лесу зялёнага мову.
...Выходзілі ноччу з прадоння на бераг
легенды,
і шэпат чароўнай Марылі
чуўся ў сцішаных чаратах.
...Леснічоўка у цёплым тумане,
і конь лесніковы ў травах —
конь чырвоны ля белых бяроз.
Гаспадар нам выносіў са склепа гладышкай
халодны бярозавы сок,
які асвяжаў і трывожыў...

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

...Над Чорным морам — чаек крык,
І крык той
                сэрца разрывае:
Ля сіняй бухты без пары
Сын Беларусі дагарае...

І кіпарысы не маўчаць,
І на сустрэчу песня кліча.
І паўстае ў маіх вачах
Паэта роднага аблічча.

Зямны паклон табе, пясняр,
К табе ішоў [redacted] дні і ночы.
З таго я залатога дня,
Які народу ты прарочыў.

З таго я светлага кутка,
Дзе ткуць на волі, без прынукі
Дзяўчат упэўненыя рукі
Цвяток радзімы васілька.

* *

Людзі — гарачыя зоркі.
Людзі
ад любові сыходзяць святлом.
Высокі іх клопат аб тым, што будзе,
высокая памяць аб тым, што было.

## ГАСТЭЛА

Успыхнула неба тваё.
Усё, камандзір эскадрыллі,—
У пекле няроўных баёў
Агнём захлынулася крылле.

Упаў. Першы раз ён упаў.
Апошні ён раз ударыў...
На подзвігу тым стартаваў
У космас
крылаты Гагарын.

* *

Перад раптоўнай навальніцай
Прыпалі травы да зямлі,
І затрымцелі вербы ніцыя,
І здрыгануліся камлі.

Лістота ўся шуміць трывожна,
Стыхіі чуе надыход.
І толькі смела,
насцярожаны,
Стаіць адзін громаадвод.

# СЛОВА ІОСІФА КАМІНСКАГА

Слёзы душаць.
Няма сілы нічога
сказаць.
Не пытайце ў мяне.
Запытайце ў Камінскага — у другога,
у таго,
што ад роспачы скамянеў.

Слёзы высушыў яму вецер.
Ён раскажа.

* *

Напружаны слых мой і зрок:
Пратэз прада мной рыпіць.
Прыцішваю крок —
Баюся на боль наступіць.

* *

«Невядомы, невядомы, невядомы...» —
Золатам на плітах мармуровых.
Я не ведаў слоў такіх суровых —
Стыне кроў перад людской бядою.

«Невядомы, невядомы, невядомы...»
Гэтак безнадзейна, гэтак многа!
Дзень і ноч маліла маці бога,
Каб сынок вярнуцца змог дадому.

«Невядімы, невядомы...» Як жа гэта?!
Уявіць хачу іх на імгненне —
Толькі цені бачу, толькі цені,
Цьмяныя салдатаў сілуэты.

Праплываюць вытаптаным жытам
Цені —
нашы хлопцы дарагія...

Ах, навошта ў свеце ёсць такія
Надпісы
суровыя
на плітах?!

* *

Дрэвы майго сяла...
Ля грэблі — сівыя вербы,
Ля ўезду ў сяло — бярозы,
На могілках — сосны.
Дрэвы майго сяла.
Калісьці, як быў хлапчуком я,
На вашых узнёслых вяршынях
Гайдаліся мары мае.
І з неадольнаю прагай
Зірнуць на мяжу гарызонта
Надоўга я вас пакінуў
У ранішнім тумане...
Вяртанне маё непазбежна,
Вяртанне ад спасціжэння свету
Да вас,
                дрэвы майго сяла.
Як проста усё і як мудра:
Ля грэблі — каравыя вербы,
Ля ўезду ў сяло — бярозы,
На могілках — сосны.

Дрэвы майго сяла.

* *

Вясною — жаўранак,
увосень — жураветь...
Пяе пра тое кожны, чым жыве:
Адзін вясёлы, звонкі, а другі —
Зыходзіць ад асенняе тугі.

Адзін вітае, бласлаўляе
Твой крок бадзёры, малады,
Другі парою нагадае,
Што на зямлі не вечны ты.

Пад шум вятроў ты ападзеш,
Як ападае ліст кляновы.
Ды красавацца будзе новы —
Народжаны вясною дзень.

Душу пранізліва кранае
І жаўранак і жураветь...
У небе красавік лунае,
У небе верасень плыве.

# ЖУРНАЛІСТ

*Івану Мельнічуку*

Дарога,
бездарожжа,
і зноў дарога —
І вячэрняй і ранняй парой.
То ціха кладзецца пад ногі,
То пад лёгкія колы — стралой...
Паўжыцця у дарозе я.
Вясною — паводка мая,
Летам пыл на палетках — мой,
Лівень сонечны,
а зімой
Маразы, завірухі мае,
А таму і сэрца пяе...
«...У артыкул даць болей солі...»
Адпраўляецца ў шлях пяро.
Белы ліст — бездарожнае поле,
І радок з-пад пяра —
прадаўжэнне дарог.

* *

Дрэва любві высокае
прарастае ва мне.
Яго не высушыць спёка,
сцюжа
        яго не сагне.

Будзе яно рупліва
сеяць насенне любві...
Жыві ты ва мне шчасліва,
высокае дрэва,
жыві!

## НАТХНЕННЕ

Натхненне — што яно такое? —
Пытаецеся у мяне.—
Нябеснае або зямное?
Жыве на яве ці у сне?

Я гавару: яно — сумленне,
Узлёт і неспакой жыцця.
Яно — любоў, і захапленне,
І прадчуванне адкрыцця...

Ды адчуваю, што ўсё роўна
Адказу цвёрдага не дам.
І каб было паняцце поўным,
Натхнення я жадаю вам.

## ЧУРЛЁНІС

Стварыў чалавек сусвет.
А ў сусвеце
нішто не жыве без імкнення:
імкнуцца бясконца і страсна
кветкі — да цішыні,
крылы — да вышыні,
думкі — да глыбіні...
Стварыў чалавек сусвет.
А ў сусвеце
нішто не маўчыць:
тут з космасам вежы гавораць,
тут арфаю бор пяе,
тут цішыня нараджае музыку.
Стварыў чалавек сусвет.
А ў сусвеце
нельга пражыць без святла:
тут сонца і зоры свецяць,
тут мора і дзюны свецяць,
тут дрэвы зялёныя свецяць.
І ўсё ж найярчэй у сусвеце
чалавечае сэрца свеціць.

## НАСТАЎНІКУ

*Ул. Калесніку*

На глебе маёй душы
(ці то промняў мала трапляла,
ці то руху было ёй мала)
у бясплоднай цішы
прарасло пустазелле.
Цвіло яно,
панавала,
перамогу ўжо святкавала
дзікім сваім вяселлем.
А ты
ў глухім пустазеллі тым
заўважыў
кволых некалькі каласкоў
і ўзважыў...
Як разумна узважыў ты!..
Пустазелле знішчаю датла,
цягнуся я да святла
кожным палеткам душы,
усімі яе раслінамі,
усімі яе каласамі,
і промні цягнуцца самі
насустрач ёй,
душы неспакойнай маёй.

## ОЙ, ВЕЕ ВЕЦЕР, ПАВЯВАЕ...

Быў развітальны вечар гаманкі.
Старэйшыя спаборнічалі ў тостах,
Спаборнічалі ў вершах юнакі,
Ішла бяседа хораша і проста.

Паэт стары падняўся з-за стала,
Рукой паправіў чуб срабрыста-светлы,
І вочы бліснулі крыніцамі святла,
І азарыўся твар усмешкай ветлай:

— Спяю вам песню, што у нас
На Магілёўшчыне спяваюць...
І заспяваў — на цішыню ў адказ —
«Ой, вее вецер, павявае...»

Бы да яго вярнулася вясна,—
Так лёгка ліўся голас, так свабодна,
І з-за ахутанага інеем акна
Павеяў вецер цёплы і лагодны.

Адчулася: паэт ў вясну заве,
Дзе птушкам і людзям не цесна.
І ўбачыў я,
як песня ў ім жыве,
Як ён усёй істотаю — у песні.

* *

У лес прыйшоў я трохі позна.
Тут грыбнікоў нямала розных —
І дужа спрытных і благіх.
Грыбы і ў гэтых ёсць і ў тых.
Ды не зайздрошчу я нікому:
Мае — мне аднаму вядомы,
Маіх не знойдзе аніхто,
Іх толькі я знайсці гатоў.
І лес густы, і дзень вялікі,
І вочы к пошуку прывыклі,
І вытрымка ў мяне як след...

Ці не так і ты, паэт,
У паэтычным лесе верыш
У ненапісаны — свой! — верш.

*

Я прашу вас, мае дарагія:
калі мяне маеце радаваць —
парадуйце нечакана.

* *

Што маўчыш, брат?
Ты мне напішы,
Як і раней, ці ўсе вы там здаровы,
Ці дровы ёсць
ды сена для каровы.
Пачую — стане лёгка на душы.

Ты напішы, ці ў вас дажджы былі,
Ці бор баравікамі зноў багаты,
І як растуць там Гнатавы дзяўчаты,
І што ў вас там геолагі знайшлі?

* *

Ад'язджаючы ў край сасновых бароў,
Ты мяне пакідала
ў сям'і неразлучных сяброў.
З цэлым горадам добрых людзей
Ты мяне пакідала ў той дзень.
А паехала —
і застаўся адзін,
без сяброў і без горада.

* *

Друскінінкай, Друскінінкай,
Мне добра тут, я тут як дома.
Я сустракаю тут свой Нёман,
З Літвою ён злучыў мой край.

Мне лёгка
сярод мудрых дрэў
На тваіх вуліцах зялёных,
Дзе Чурлёніс музыкай гарэў,
Зямлёй і зоркамі натхнёны.

Друскінінкай, Друскінінкай,
На развітанне ў ціхі вечар
Я не скажу табе «Бывай» —
Скажу, мой дружа: «Да сустрэчы!»

# РАТНІЧЭЛЕ *

О, вечны нескончоны шум!
Цябе і ў памяці нашу.
Я думаў, так шумяць таполі,
А гэта, рэчка, ты бяжыш.
Цераз балота, лес і поле
Твой шлях да Нёмана ляжыць.

Неўтаймаваная рака,
Такою будзеш і ў вяках.
Я зразумеў тваё цячэнне:
Нялёгка ў вузкіх берагах,
Таму імкнешся, Ратнічэле,
Ты на шырокі Нёмнаў шлях.

* Ратнічэле — прыток Нёмана ў Літве.

## НА МЯДЗВЕДЗЬ-ГАРЫ

Аю-Даг, я стаю на тваёй спіне.
Мо таму, што Мядзведзь-гарою
завешся,
Уяўляецца дзіва мне —
Што возьмеш і варухнешся...
Ты застыла. Ды знаю, была пара,
Калі з мора ты выйшла упэўнена,
Так яго ўскалыхнула,
Мядзведзь-гара,
Што яно і цяпер шуміць пенаю.

# ПАЛЯВАЯ БЯРОЗКА

Крона — зялёная хмарка,
а ствол — белая, яркая
маланка.

Карэнне маланкі — ў зямлі.

Вас азарыла, як міма прайшлі?

* *

І ноч, і маланка, і лівень.
Вёрст дваццаць, напэўна, той шлях.
У нас, апантана шчаслівых,—
Яе чамаданы ў руках...

Дзяўчына у хату не просіць:
Ля веснічак лёгкіх сваіх
З усмешкай чароўнай падносіць
Вяргіню
адну на дваіх.

Не кліча...
Вяртаемся полем,
Два рыцары, два дзівакі.
А лівень шалёны такі —
Здаецца, не сціхне ніколі...

* *

Коўш Мядзведзіцы нахіліўся —
Хоць рукамі крані.
Мы з яго шчэ не напіліся
Гэтай светлае цішыні...

Будзе снежань і студзень будзе,
Хутка прыйдзе пара завірух.
Толькі веру — яны не астудзяць
Нашых сэрцаў гарачых і рук.

Пройдуць хмары, снягі,
і аднойчы
Там, дзе зблізяцца дзве душы,
Зноў паўторыцца светласць ночы
З цішынёю у зорным каўшы.

* *

Далёкія вочы зорак.
Блізкія зоры вачэй...
З табой я сустрэну золак —
Ты толькі цалуй гарачэй.

Халодныя рукі галінак,
Голле гарачых рук...
Як адгарэла каліна,
Так некалі я адгару.

Ды лепшае долі не трэба,
Мне большага шчасця не стрэць.
Пад ласкавым зорным небам
Хачу я да скону гарэць.

* *

Ноч асенняя,
ты гаспадарыць
Вось і прыйшла у мой сад.
Што ж, падумаем і памарым
Пад павольны твой лістапад.

То трывогаю, то спакоем
Напаўняе ён нетры душы.
Калышы сваёй лёгкай рукою
Ціхі клён пад акном,
калышы.

* *

Дарога клінам жураўліным
Уклінілася ўдалячынь.
І вербы там сышліся клінам,
І па-над імі неба клін...

Усё таму, што жураўлі
Над краем праплылі маўклівым,
Дзе мы шчаслівыя былі,
Дзе свет для нас...
сышоўся клінам.

* *

Пляткаркі звечара савелі —
Пра нас стамляліся малоць.
Ды знаюць белыя завеі,
Як светла ўсё у нас было.

Пляткаркі брудам абліваюць,
Як аблівалі ўжо не раз.
Ды лугавыя кветкі знаюць,
Як чыста ўсё было ў нас.

Спрачаемся.
Кахаем.
Верым.
Ні сум, ні радасць — напаказ.
І знаюць сцены, вокны, дзверы:
Не разлучыць нікому нас.

* *

Белыя бярозы,
Белы снег.
На марозе белым
Белы смех.
Ў небе месяц белы,
Белы край.
Ручаньку мне белую
Дай.

## АДЛІГА

Табе пад трыццаць, мне — пад трыццаць,
А мы, як дзеці, пачалі
Гуляць у снежкі, весяліцца
На ціхай на лясной зямлі.

Там ні дарог, ні вузкіх сцежак,
Адно ствалы ў абхватаў пяць.
Там ад маіх імклівых снежак
Ты парывалася ўцякаць.

І зноўку выбягала смела,
І голас твой звінеў і ціх.
А потым пушча зашумела
Для нас дваіх, для нас адных...

Перад тугімі маразамі
Ішла адліга па зямлі.
І калыхаліся над намі
Вяршыні соснаў і ялін.

## БРЭСТУ

Заняўся твой высокі дзень.
Табе — пад тысячу, мой горад.
Хачу, каб ты не ведаў гора,
Каб год ад году маладзеў.

Хай дзве ракі, як дзве рукі,
Цябе спакойна абвіваюць,
Няхай каштаны расцвітаюць
З табою, Брэст, ва ўсе вякі!

* *

Выйшла з-за нівы
сонейка-дзіва.
Ударылі промні тонкія
па клавішах звонкіх рамонкаў —
аж птушкі зашчабяталі.

* *

Агонь палае у крыві,
А ён далёкі ад атруты.
Хай абмінае холад люты,
Жыві з агнём маім, жыві!

Яшчэ не скора будзе днець.
У нашым небе зорак колькі!
Цалуй, пакуль адзінай зоркай
Гарыш і свеціш для мяне.

## СЫНУ

Ты заснуў на далоні
пад промнем вясны.
Закалыхала далонь,
як лодка.
Не веру вачам:
ты ўсміхнуўся салодка.
Няўжо табе, родны мой,
сняцца ўжо сны?
Не, гэта бацькавы мары,
няйначай,
гэта лятункаў імклівы рух —
перадаюцца па жылах рук,
а мо праз маё дыханне гарачае.
Ты заснуў на далоні,
маленькі мой велікан.
Усміхаешся...

## ДЗЯЦЕЛ

Да сваіх
да дзяцей
прыляцеў
птах.
У дзюбе — ежа,
у вачах — страх.

Птушаняткі
крычаць
у гняздзе,
а ён позірк
з мяне
не звядзе...

Мой мілы дзяцел,
кармі хутчэй.
Не бойся, браце,
маіх вачэй —
я таксама бацька,

* *

— Тата, а ці аўтобусу колы не баляць?

З вуснаў сына

Мой сын, сваім пытаннем шчырым,
Сваім пытаннем нечуваным
Усіх суседзяў-пасажыраў
Развесяліў ты нечакана.

Ды вось мне, чэрстваму мужчыне,
Прыйшло на розум ледзьве-ледзь,
Што колы хуткія
машыне
Усё-ткі могуць забалець.

Дык гэта колы, сын мой,
колы —
Дарога б толькі ім была!..
А як баліць
былінкам кволым,
Пакуль праб'юцца да святла!

* *

А ведаеш, сыне,
у горадзе шумным,
дзе месца няма для тугі,
усё ж непрывычна,
трудна мне, сумна
без вачанятак тваіх
дарагіх.

І марыцца мне ўсё
і сніцца
сустрэча на роднай вярсце.
Ну, як ты, маленькі мой рыцар,
жывеш без мяне і расцеш?

Ці паслухмяны ты? Ці вясёлы?
І чым ты заняты цяпер?
Ці хоць не забыўся, што школа
чакае, мой хлопчык, цябе?

Вучыся: навукі дарога прамая...
Вучыся — трывогі мае супакой.
Каб толькі ты ведаў, як я чакаю,
Калі мне напішаш сваёю рукой!

# ТВАЯ ЖЫЦЦЁВАЯ ПАЛОСКА

*Светлай памяці маці*

Мая добрая мама —
                    ўся вёска
цябе памятае такой,—
твайго лёсу-жыцця палоска
была вузкаю ды цяжкой.

Далей вёскі ты рэдка хадзіла.
Пастарэла ты без пары:
васьмярых дзяцей нарадзіла,
узрасціла нас шасцярых.

Час бязлітасны, час суровы
непасільную ношу даваў.
З поля бульбу, а з лесу дровы
на сабе валакла, удава.

То чакала касы лагчынка,
то насення чакала ралля...
Ты не ведала адпачынку.
Аддыхну, гаварыла, пасля.

Толькі б сталі на ногі дзеці,
выйшлі ў людзі дочкі, сыны.
Толькі б ціха было на свеце,
толькі б больш не было вайны!

* *

...Узарвалася бура ля хаты,
стала грушу з карэннямі вырываць.
— Коля, Ко-ля! — крычу я брату,—
Трэба грушу хутчэй ратаваць!

Мы паспелі: трымаем рукамі —
удваіх і лягчэй удвая,—
і яна застаецца
                    між намі
з падарваным карэннем стаяць...

...Сонца.
          Жніва.
                    Прылягла пад ракітай.
Паклікала нас...
Паклікала нас,
                    каб сказаць:
— Ну, вось, дзеткі, і ўсё.
Сваё зжала [redacted] жыта.
Адпачну я. Даруйце.
Вам жаць яшчэ й жаць.

...Да вады, нібы птах, я лячу.
Ды на месцы калодзежа — яма.
Ты над ямаю, ма...
                         Я крычу —
Прачынаюся, мама.

* *

Мама,
як хацеў бы я, каб сягоння
ты прайшлася па родных палях!
Пачынаецца з гэтых гоняў
высокая сцежка мая.

А з якой табе радасцю сёння
паказаў бы я сына свайго,
і з пяцёркамі сынаў дзённік,
і малюнкі, і сшыткі яго.

Ты была б шчаслівай бабуляй,
Ён — шчаслівым унукам тваім.
Цішыня. Мы над крыжам стаім.
Лічыць годы камусьці зязюля.

* *

У братоў, у сясцёр — свой клопат,
сустракаемся мы радзей.
Але памяць — што б ні было там —
на радзіму усіх нас вядзе.

...Хата стукае аканіцамі.
Печ дыхнула цяплом.
Як ніколі,
                    не спіцца мне —
полем пахне, дубовым лістом.

Бохан свежы дастала ты з печы,
прытуліла на міг да грудзей.
(Пачынаўся звычайны дзень
тваіх клопатаў чалавечых.)

Мама, смачны які быў той
хлеб, што кроіла ты нам!
Як мы елі яго
з вадой,
падсалоджанай сахарынам!

Але ў хаце ў нас быў прытулак
пагарэльцам і жабракам...
Як мы позна прыходзім, матуля,
пакланіцца тваім рукам!

* *

Мы шукаем твае сцяжыны —
Не адна замятала зіма.
Мы прыходзім да роднай хаціны,
А яе ўжо няма.

Не, матуля, нішто не знікае.
Што адстукалі аканіцы — няпраўда!
Адсвяціліся вокны — няпраўда!
Адзвінела крыніца — няпраўда!
Я вяртаюся на радзіму,
як вяртаецца да берага карабель.

У былое ўглядаюся пільна —
адраджаецца хата, і печ, і калодзеж.
Хмельна кружыцца галава
ад роднага хлеба і дыму,

і калодзежная вада
гасіць тут маю смагу.
Ці пялёстак, ці жоўты лісток
упадзе мне на плечы —
у грудзях зашчыміць-зашчыміць
свята сустрэчы...

## АЗАРЭННЕ

1

...Нейкая цьмяная хата,
а ў хаце той — весялосць,
гасцей размаітых багата,
і я — таксама тут госць.

Без мэты і без прычыны
сышліся, нібы сваякі,
сюды мужчыны, жанчыны,
дзяўчаты і юнакі.

Сядзяць — кучаравы і лысы,
разбухлы і страшна сухі,
сядзяць паэтэсы, актрысы,
студэнты і пастухі.

Паблісквающь зрэдку й пагоны.
Тут карты, віно — пакрысе...
Нібыта ў агульным вагоне
кудысьці мы едзем усе.

2

У цэнтры кампаніі шумнай
красуня-гарэза адна.

І з мінай глыбакадумнай
ка мне наплывае яна.

Твар белы, а пасмы — як сажа
у прыгажуні той.
— Бліжэй пазнаёмімся,— кажа,—
Завуць мяне Пустатой.

Страчацца буду з прыемнасцю
з табой, дарагі чалавек.
Адкажаш мне узаемнасцю —
і лёгкі будзе твой век.

Ты ходзіш, здаецца, ў паэтах?
Не варта, паэт, тужыць.
Патрэбна, запамятай гэта,
лёгка пісаць — лёгка жыць...

3

Я рад, Пустата, гэтай стрэчы,
мне лёгка ў абдоймах тваіх.
Сягоння на цэлы вечар
забуду усё і усіх...

Пайшлі мае дні як імгненні.
Чаго мне яшчэ хацець?
І раптам — як звон — азарэнне:
я шчодра плачу Пустаце.

І аддаляецца мэта,
і словы блішчаць, як нажы:
«Патрэбна, запамятай гэта,
лёгка пісаць — лёгка жыць».

4

Іду да высокай дарогі
па жыце, па сінім ільне.
А Пустата б'е трывогу —
спрабуе вярнуць мяне.

Бяжыць, і смяецца, і плача,
і сілы у яе нестае.
Я азіраюся — бачу:
яна адстае,
адстае.

* *

Натхненне, пэўна, сёння ў салаўя,—
З натхнёнымі падобнае бывае:
Адзін слухач на ўвесь альшэўнік — я,
А ён так хораша спявае.

* *

Я сваю чакаю поўню...
Дрэмле ніва каласістая.
А над лесам, а над полем,—
Нібы праўда, неба чыстае.

* *

Мы не шукалі дарог.
Узышлі на вяршыню горную —
Не горад вячэрні, а неба зорнае
Ляжала ля нашых ног.

* *

Такі бялюткі выпаў снег,
Аж пасвятлелі дні і ночы.
Па снезе я скрыпучым крочу,
І лёгка дыхаецца мне!

* *

Ля варот дубовых я ішоў.
На іх — аб'ява з клічным знакам
(Быццам к сэрцу хто з нажом):
«Асцярожна: злы сабака!»

* *

Ці ёсць гармонія ў прыродзе?
Да чысціні ўсё ліпне бруд.
А Гулівера часам водзіць
За нос
духоўны ліліпут.

* *

Каханне, няўжо ты, сляпое, павінна
Прымаць, як не раз прымала,

Разбэшчанасць за нявіннасць,
Нікчэмнасць — за дасканаласць?!

* *

Над белаю-белай зямлёю
Не снежныя круцяць жорны.
Над снегам і нада мною —
Мяцеліца птушак чорных.

* *

Сярод свята штось стала самотна,
Стаў не рады я слаўным гасцям.
Здалося:
нехта недзе памёр, гаротны,
І што нібы той нехта — я сам.

* *

Трава з-пад каменя устане,
Алешына ўваскрэсне з пня.
І пройдзе ноч, і прыйдзе ранне
І сонечная вышыня.

* *

Іду дарогай палявою,
А поле —
не відаць мяжы.
Звініць блакіт над галавою
І каласы шапочуць:
«Жыць!..»

* *

Да мяне, я — да вас, мае людзі.
Сёння я не хачу цішыні.
На тым свеце маўчаць мы будзем,
А на гэтым — давай гаманіць.

* *

Кажаш, голас мой сёння звонкі,
Не такі быў учора.
Не.
Сёння слых у цябе больш тонкі.

* *

Пасварыцца захочаш — дасягнеш мэты,
Што б сварцы насуперак я ні рабіў.

Прынясу табе з поля бярэмя кветак —
Будзеш скардзіцца ўсім,
што рамонкамі біў.

* *

Я — закаханы ў жыццё чалавек
(Мне долі не трэба другое):
У памяці добрае доўга жыве
І хутка знікае благое.

* *

Да мяне на балкон галубы прыляцелі,
Зазірнулі ў акно — я акно раскрыліў.
Атрымалі пярнатыя ўсё, што хацелі,—
Я пірог свой на крошкі для іх падзяліў.

Промні скінулі кроплю са звонам.
Варухнулася ціха трывога ва мне:
Заўтра я пакідаю
пакойчык з балконам,
А яны будуць крошак чакаць, як раней.

Хто ты, новы жыхар, мне пакуль невядома,
Ды жадаю, каб з хлебам заўсёды ты быў,
Каб карміў галубоў ад імя ўсяго дома —
Весткі добрыя будуць насіць галубы.

* *

Насенне датуль не насенне,
Пакуль не прачнецца ў глебе.
Поле датуль не поле,
Пакуль не запахне хлебам.

* *

А ці лятаеце парой вы ў снах?

Не на шарах і не на рэактыўных
Лятаю я. Лячу на крылах дзіўных —
На ўласных неслабеючых руках.

Свабодна, лёгка іх я развяду,
Махну — і паплыву над родным краем,
І пада мной зямля здаецца раем,
Ды на зніжэнне я ўжо не іду...

Фантазіі выток знайсці хачу.
Бывае, кажуць, так у часе росту.
А мне ж расці ўжо не дужа проста,
І ўсё-такі я некуды лячу...

Шчаслівага і вам палёту!

ЗМЕСТ

На белорусском языке

Василий Алексеевич Жукович

ПОКЛОН

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

АТ 08578. Здадзена ў набор 15/VIII 1973 г. Падп. да друку 12/III 1974 г. Тыраж 4 000 экз. Фармат $60 \times 90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 3. Ул.-выд. арк. 2. Зак. 371. Цана 19 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Жуковіч В.**

Ж 86 Паклон. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1974. 96 с.

У зборніку «Паклон» Васіль Жуковіч імкнецца паэтызаваць радасць працы і творчасці, кахання і бацькоўства, шчаслівае пачуццё адданасці Радзіме, людзям. У цэнтры кнігі — чалавек з яго пошукамі і знаходкамі, з прагай духоўнага ўзбагачэння.

Ж $\frac{0743\text{-}048}{\text{М } 302(05)\text{-}74}$ 73-74 Бел 2



Васіль Жуковіч нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Дзмітравічы Камянецкага раёна. Вучыўся ў Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна. Працаваў на будоўлі, а затым — загадчыкам аддзела газеты «Зара над Бугам», рэдактарам Брэсцкай студыі тэлебачання, літкансультантам «Знамени юности». Зараз працуе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Друкаваўся ў часопісах: «Полымя», «Беларусь», «Работніца і сялянка», «Неман», «Маладосць», «Вожык», «Бярозка» і ў рэспубліканскіх газетах.

19 кап.